Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 26 (77). Вільня, Субота 19 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Абшарніцкія настроі.

Некалькі раз мы ўжо падавалі на старонках нашае газэты аб тых эндэцкіх імкненьнях і жаданьнях, якія выяўляюцца цяпер у канстытуцыйнай камісіі, калі ідуць спробы зьмяніць выбарны закон да Сойму і Сэнату. Галоўную ролю ў гэтай справе іграюць эндэкі, ім-жа належыць і ўся ініцыятыва. Дзякуючы таму, што іх выразная большасьць, справа здавалася ішла наперад па іх шляху, ажно ізноў зазначаюцца зрывы.

На пачатку прапазыцыі аб зьмене пі эндэцкай направе выбарнага закону, калі зьявілася аж 4 праекты і калі ў хвалях яшчэ нічога было ня відна, дык партыйны антагонізм паміж буржуазнымі польскімі партыямі быццам адыйшоў дзесь у сьвет забыцьця. але-ж калі на практыцы выявілася, што ёсьць разыходжаньні ў іх праектах, дык цяпер ужо намеціўся раскол паміж самай буйнай буржуазіяй і самай шавіністычнай часткаю польскага соймавага прадстаўніцтва.

Прадстаўнікі буйнага капіталу вінавацяць эндэкаў, што яны мала ўрэзалі праву працоўнага народу. І праўда, паміж буйным польскім капіталам і абшарніцтвам і сьляпым, ашалелым шавінізмам ёсьць розніцы. Гэтыя розніцы галоўным чынам выяўляюцца ў тым, што шавіністы баяцца ў першую чаргу нацыянальных меньшасьцей, а буржуазія працоўных масаў. Дык вось чаму калі аб усіх зьменах у праектах аб выбарным законе, эндэкі, прадстаўнікі польскага шавінізму, трубяць як аб трыўмфах, аб тых праектаваных зьменах, якія яны асягнулі, дык хіенаўцы сыплюць на іх нападкі і вінавацяць у радыкалізме. Розныя хіены лічаць, што ня толькі астаецца роўнасьць і вольнасьць у эндэцкіх праектах, але-ж нават зусім няма ніякае розьніцы паміж старым законам і новым эндэцкім праектам. „Бо і далей голас бабы (гэтак пішуць газэты) з пад касьцёла, сьляпое, глухое і не пісьменнае будзе мець большае значэньне чым голас дацэнта з унівэрсытэту калі ён ня мае 30 гадоў“. Беручы пад увагу агульна-чалавечыя ўмовы істнаваньня, на наш пагляд, дык гэтак і павінна быць, бо дацэнт унівэрсытэту мае забясьпячэньне свайго жыцьця, дык яму трэба толькі працаваць, ну, а няшчасная асоба і мусіць падаць свой голас аб направе сваей гаротнасьці!?

На чым аснавана направа выбарнага закону? — пытаецца буржуазія ў эндэкаў і адказвае: — Паводле плянаў мае быць зьменшана лічба паслоў і сэнатараў.

„Гэтыя зьмены маюць гэтакае другараднае значэньне, што, калі грунтаваць на іх направу выбарнага закону, дык гэта знача ўжываць толькі рэклямы. Безсумліўна ёсьць у гэтых зьменах трохі забясьпечэньня ад напльву Украінцаў да Сойму. Але-ж гэтакае слабое і блядое забесьпачэньне, ці-ж можа быць выстарчальным?“ І далей, як пішуць газэты хіенаўскага лагеру, эндэцкі праект ня можа быць рацыянальным дзеля таго, што ён забясьпячаючы Сойм ад нацыянальных меншасьцяў, пакідае доступ польскаму працоўнаму народу. Па іх думцы трэба і гэта гэтак перарабіць, каб урадаваць мог толькі той, хто мае багацьце. А свае вывады буржуазія апраўдвае тым, што бедны чалавек не павінен браць удзелу ў кіраўніцтве і ўставадаўстве ў дзяржаве, дзеля таго, што яму няма чым апекавацца. Знача, мала таго, што яны маюць капіталы і іншыя сродкі, але-ж і ўлада павінна належаць толькі ім!...

Намечаны раскол сярод польскай буйнай буржуазыяйі шавіністычнай дробнай буржуазіяй, нас бязумоўна толькі цешыць, дзеля таго, што цераз хатнія спрэчкі можа яны меней будуць зьдзекавацца над намі.

На канчатак зазначу, што эндэкі ў сваей праграме згодна сваей ідэалёгіі ставяць наперад нацыяналізм, а пасьля гаспадарчы стан, а свора хіенаўская наперад ставіць гаспадарчы стан — багацьце, а пасьля ўжо нацыяналізм, дык вось гэта розніна паміж імі ў адносінах да польскага народу. Разумеецца, што калі справа ідзе аб нацыянальныя меншасьці, дык у кожным разе па гэтакім пытаньням паўстае паміж імі згода, бо ўсе яны імкнуцца да таго, каб нас зжываць з твару зямлі.

Але мы гэтаму не дамося.

## Міністар Чэховіч аб гаспадарчай сытуацыі.

На паседжаньні Сэнату ў часе разгляду бюджэту міністар скарбу п. Чэховіч сказаў прамову, ў якой паміж іншым адзначыў: „Бачым вялікую направу каротка тэрміновага крэдыту, але-ж у далейшым працягу зусім ня істнуе ў нас доўгатэрміновы крэдыт.

Пануе пагляд, што крыніцаю доўгатэрміновага крэдыту ў нас павінна быць дзяржаўны скарб. Да якое ступені гэты пагляд ня рацыянальны выразна гавораць цыфры, бо толькі на мэліярацыю трэба 5 міліярдаў зл. золатам.

Пасьля крэдытаў на разбудову патрэбнымі ёсьць крэдыты на направу гаспадарчага стану. Выкарыстаньне капяльняў нашых вымагае развіцьця камунікацыі. Неадложным пытаньнем зьяўляецца будова калеі Катавіцы—Гдыня, кошт якое аблічаецца на 228 міліёнаў зл. золатам. Далей п. міністар выказаў неабходнасьць злучэньня каналам вугальнага раёну з басэйнам Віслы“.

„На колькі справа крэдыту,—далей гавора міністар,—мае найважнейшае значэньне для нашай гаспадарчай направы і ўпарадкаваньня фінансаў, на толькі здабыць гэты крэдыт на заграні́чных рынках вымагае ад нас важкіх высілкаў“.

Дзяржаўны бюджэт на 1927—28 бюдж. год, па думцы п. міністра, ёсьць найболей ашчадным у параўнаньні з бюджэтамі мінулых гадоў. На колькі ня мае рацыі тая частка грамадзянства, якая жадае паніжэньня істнуючых падаткавых цяжараў і раўняючы бюджэтныя цыфры забывае аб спадку курсу грошай і зьмяншэньня яго закупнай сілы, на толькі ня можам адмовіць рацыі тым галасом, якія цьвердзяць, што рэдукцыя дзяржаўных патрэбаў дайшла ўжо да найдалейшай граніцы і што ўрад павінен заняцца направаю палажэньня дзяржаўных урадоўцаў. Для фінансава-бюджэтавай раўнавагі найважнейшае значэньне мае гандлёвы балянс. У земляробскім краю, якім ёсьць Польшча, гандлёвы балянс, перадусім залежыць ад ураджаю. У сувязі з невыстарчальным вынікам збораў у 1926 годзе, магчыма будуць непажаданыя рэзультаты гандлёвага балянсу ў некаторых месяцах.

На якой плошчы ўстабілізуецца злоты, гэта пытаньне становіцца што раз актуальнейшым. Ёсьць думкі аб парытэце 5,18“.

Як мы бачым з вышэй паданай прамовы п. міністра, дык гаспадарчая сытуацыя польскай дзяржавы зьяўляецца вельмі цяжкаю. Ясна, што патрэбных крэдытаў без заграні́чнай пазыкі Польшча не здабудзе, а цераз гэта тыя неадложныя і важныя пытаньні, якія маюць на мэце гаспадарчую направу будуць ляжаць пад сукном у п. міністра.

Але-ж рацыянальна п. міністар адзначыў, што дабыць крэдыты заграніцаю вымагае вялікай натугі. Найлепей аб гэтым сьведчыць апошнія захады аб пазыцы ў Амэрыцы. Дзе, калі даюцца грошы дык вымагаецца каб гэтыя грошы пашлі туды, куды пакіруе іх прадстаўнік амэрыканскіх банкіраў, які павінен быць у кіраўніцтве польскага банку, што вельмі не падабаецца сувэрэннаму польскаму ўраду.

Турбуючыся аб здабыцьці крэдытаў урад ставіць галоўным заданьнем направу палажэньня дзяржаўных урадаўцаў. Гэта таксама нядобрая адзнака, бо ўрад павінен перадусім рупіцца аб направе таго палажэньня чыё найгоршае. У параўнаньні палажэньня ўрадоўца і селяніна атрымаем нешта зусім процілежнае. Палажэньне селяніна ў шмат разоў горшае, чым палажэньне ўрадоўца, аднак-жа аб направе сялянскага палажэньня п. міністар нічога не гавора, а лепшаму палажэньню ўрадоўцаў прысьвяшчае асобую ўвагу.

Раўнавага бюджату аб якой гавора міністар ня мае рэальнага значэньня, тагды, калі гандлёвы балянс не пажаданы.

Дык вось, у гэтым уся тая „актуальнасьць“ курсу злотага, аб якой гаварыў пан міністар. Калі гэтак, дык злоты замест таго каб асягнуць парытэт 5.18, паляціць на Эвэрэст.

### СЯЛЯНЕ!

Аб усіх крыўдах, аб зьдзеках адміністрацыі і аб вашым жыцьці пішыце ў сваю газэту „Сялянскую Ніву“.

# НАВІНЫ.

**— Выезд архіепіскапа Хвядоса.** Ад'еждажаўшага ў Варшаву архіяпіскапа Хвядоса праводзіў на вакзал п. В. Пятровіч, кіраўнік аддзелу рэлігійных справаў віленскага ваяводзтва.

Архіяпіскап Хвядос будзе заступаць у Варшаве мітрапаліта Дзяніса, які выехаў з візытаю да канстантынапольскага патрыарха.

**— Перасталіся.** Ваяводзкія ўлады зьнялі канфіскату з літоўскай часопісі „Życie Ludu", якая выходзіць у Вільні на польскай мове. Гэтая часопісь была канфіскавана камісарам на м. Вільню за артыкул „Бедныя авечкі", якім Літвіны моцна запратэставалі проці беспадстаўнага высяленьня іх ксяндза Шымашыса.

**— Канфіската „Нашае Волі".** Па загаду віленскага ваяводзтва канфіскаваны № 4 беларускае газэты „Наша Воля" за гэтакія артыкулы: 1) Інтэрпэляцыя ў справе адовы „Лігі абароны правоў чалавека і грамадзяніна; 2) Грамадзкая агэнпнасьць; 3) „Беларускі Дзень" (аб новай часопісі ў беларускай мове пад гэтакім назовам) і за 4) увесь аддзел карэспандэнцыяў з вёскі.

Адначасна арыштаваны рэдактар „Нашае Волі" Машара.

**— Да прыезду Ул. Жабатынскага.** У панядзелак, 21 г. сакавіка прыяжджае ў Вільню Уладзімер Жабатынскі, выдатны палітычны жыдоўскі дзеяч і пісьменнік.

Ул. Жабатынскі знаны і ў расейскай літэратуры, бэлетрыст і журналіст.

Сусьветная вайна шмат каму кінула надзею і лятункі аб лепшым жыцьці. Не абмінула гэта і Жыдоў. Паслухаўшы абяцанак Англіі Ул. Жабатынскі стварыў жыдоўскія легіёны і ваяваў за вольную жыдоўскую бацькаўшчыну — Палестыну, але-ж пасьля вайны сустрэла яго вялікае разачараваньне, бо на практыцы вышла гэтак, што Палестына вольнай, як гэтага хацеў Жабатынскі, не стала.

## Бальляда Працы.

Скора, ці ня скора,
Аднак трэснула запора,
Што вязьніла Працы дух...
І шырока на ўсе бокі,
А высока — пад ваблокі
Рынуў сьмела Люду рух.
Што за зьява?... Ўсе палацы
Мусяць кланяцца да працы,
Люд ідзе, а ў вуснах гром,
А прад Людам тут навокал
Кружыць страху чорны сокал,
А у дзюбе крыўд альбом.
Пане, гэта-ж ты упісаўся,
Ты на памяць люду даўся,
Пане, тут на карце кроў:
Табе люба спомніць гэта,
Як пісаў ты кожна лета
Соткай смачных бізуноў.
Пане, глянь, вось хмара Люду
Дачакалась часу-цуду
К табе ў двор ідзе гасьціць...
Не прымі, спусьці сабакі,
Вазьмі стрэльбу да атакі,
Пастарайся ня пусьціць!
Глянь, той самы лапаць, сьвіта...
І той самы дзед Мікіта
На чале Народу йдзе...
Не дрыжы, чаго пужацца,
Лепш мацней за стрэльбу ўзяцца
І адпор даць грамадзе.
Пане, глянь, вось хмара Люду
Пяе грозна „Не забуду!"
„Не забуду мора сьлёз!"...
Віджу ўжо палацу сына
Ты трасешся, як асіна,
Ты баішся тых пагроз...

*Фр. Грышкевіч.*

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Агітацыя проці Польшчы ў Данцыгу.

У Тэгенгофе здбылося акружнае сабраньне нацыянальна-нямецкай партыі, на якой выступіў з прамоваю сэнатар Данцыга Зэгм. У сваей прамове сэнатар Зэгм надта востра атакаваў Польшчу. За ўсякія выгоды ў Данцыгу, які згодна міжнародных пастановаў мае нейкія супольныя справы з Польшчаю, адказнасьць, па славам сэн. Зэгма, падае на Польшчу. Сэн. Зэгм зазначыў, што толькі дзеля таго, што Данцыг змушаны быў мець гаспадарчыя супольнасьці з Польшчаю, папаў у гэтакае цяжкае гаспадарчае палажэньне.

У далейшым працягу прамовы крытыкаваў некарыснае паразуменьне папярэдняга ўраду Данцыга з Польшчаю. Паразуменьне з Польшчаю толькі пагоршыла гаспадарчую сытуацыю вольнага места Данцыга. Пекны назоў вольнасьці для Данцыга (прып. Рэдакцыі) мае толькі папяровае значэньне, бо аддаваўшы Данцыг ад Нямеччыны, паміма яго волі стварылі места дзе гаспадарыць сусьветная дзяржаўная буржуазія.

### Аб школьніцтве ў Верхняй Сілезіі.

Школьная справа на паседжаньні Рады Лігі Народаў 12 г. м. ўрэгулявана. Прынята польская тэза аб тым, што тыя дзеці, якія, пры запісі ў школу, прызнаюць сваей роднай мовай польскую мову, ня могуць прымацца ў нямецкую школу.

Адносна іншых катэгорыяў дзяцей, дык Рада Лігі Народаў пастанавіла, каб дзеці, на жаданьне польскіх школьных уладаў экзаменаваліся ў знаёмасьці нямецкае мовы і калі прызнаецца, што дзіця блага знаёма з нямецкаю моваю, дык павінна хадзіць у польскую школу. Гэтакі экзамен будзе адбывацца ў прысутнасьці нэйтральнагага рэчазнаўцы (прадстаўніка пабочнай дзяржавы).

Гэтая пастанова будзе выконвацца з пачаткам новага школьнага году.

Для Польшчы гэта мо' перамога, але-ж для свабоды грамадзянства, дык маленькія кайданкі; як-жа іначай назваць гэта, калі грамадзянін ня мае права вучыць сваё дзіця як захоча?

### Барацьба ў Мароку.

„Petit Parisien" паведамляе з Рабату, што ў часе барацьбы з паўстанцамі, якія зьявіліся на францускую частку Марока з гішпанскай, забіты адзін маёр і адзін паручнік францускай арміі. Паўстанцаў было забіта і ранена (разам) 40 чалавек.

### Заканчэньне сэсіі Рады Лігі Народаў.

Старшынёю паседжаньня Рады быў намецкі міністар замежных справаў Штрэзэман. Дык ясна, што ён падняў пытаньне аб выдаленьні антантаўскага войска з Саарскай вобласьці. Як ведама, дык пасьля сусьветнай вайны пераможцы Немцаў пераможцы занялі некалькі багатых нямецкіх вобласьцей, як залог за контрыбуцыю, якую Немцы мелі выплаціць. Цяпер заплата кантрыбуцыі неяк злагоджана; Немцы хацелі-б, каб акупацыйнае войска ачысьціла іх вобласьці, але-ж гэта не падабаецца Францыі, якая апіраючы спрытна вэрсальскім трактатам утрымлівае ў сваіх руках Саарскую вобласьць. Дык вось, гэтак пагутарыўшы аб гэтым і фактычна нічога не стварыўшы, адклаўшы тэрмін апрацоўкі статуту для Сыры, сакавіковая сэсія Рады Лігі Народаў закончылася.

Толькі ўжо пасля паседжаньняў, калі Штрэзэман і Брыян аглядалі ў Жэнэве аўтамабільную выстаўку, дык паўстала моцная спрэчка паміж імі аб прыгоднасьці францускіх і нямецкіх аўтамабіляў. Пераказваючы гэты факт „В. С. am Mittag" дабаўляе, што абодва міністры ў палітыцы зьяўляюцца бязсумлённымі пацыфістамі (тварцамі супакою), але-ж у аўтамабільных справах, дык ярымі шовіністымі.

### Паварот Бірка.

Былы эстонскі пасол у Маскве Бірк, які перайшоў да бальшавікоў на службу, адрокшыся пасады і паўнамоцтваў эстонскага пасла, прабыўшы нейкі час у Расеі, няведама па якіх прычынах уцёк з Рад. Расеі ізноў у Эстонію.

Бірк эстонскім урадам арыштаваны і сядзіць цяпер у вастрозе. Пэўна што яго будуць судзіць як здрадніка.

### Сьмерць прэзыдэнта Латвіі.

Прэзыдэнт латвійскай рэспублікі Чакстэ памёр 14 г. сакавіка.

### 77 ўгодкі Масарыка.

Гэтымі днямі чэхаславацкі прэзыдэнт Масарык сьвяткуе 77-ыя ўгодкі свайго жыцьця. Дзень нарадзінаў Масарыка быў вялікім сьвятам ува ўсей Чэхаславаччыне, што сьведчыць аб вялікай пашане да свайго заслужанага тварца незалежнай чэхаславацкай рэспублікі. Адначасна і чэскія калёніі па ўсім сьвеце на гэтае сьвята адбывае сходкі, ладзяць канцэрты і г. д. Мераю пашаны, сымпатыі і папулярнасьці, якую прэзыдэнт Масарык мае ў шырокім сьвеце, можа паслужыці факт, што з прычыны 77-х угодкаў нарадзінаў Масарыка прысьвяціла яму артыкулы прэса рожных дзяржаваў, як: Нямеччыны, Аўстрыі, Швайцарыі, Італіі, Югаславіі, Францыі і інш. У розных мясцох адбыліся на яго чэсьць, сьвяточныя сабраньні, канцэрты і г. д.

Гэтую вялікастную папулярнасьць паміж сваімі і чужымі прэзыд. Масарык заслужыў тым, што ён зьяўляецца запраўдным дэмакратам, для якога высокія ідэі агульнай роўнасьці і нацыянальнай раўнапраўнасьці ня пустыя гукі, але-ж рэальная праграма дня, што ў жыцьці чэхаславацкай дзяржаўнасьці выявілася назытыўнымі пасьпехамі.

За 8 гадоў свайго істнаваньня невялікая Чэхаславаччына патрапіла ўмацавацца і скансалідавацца найлепш з усіх нова паўсталых дзяржаваў. У гэтым—значная заслуга Масарыка, бо ён заўсёды разумеў і з усіх сіл памагаў якнайшырэйшаму разьвіцьцю маральна-духовых сіл і матэр'яльнага дабрабыту народаў чэхаславацкай дзяржавы.

Ня меншую пашану заслужыў Масарык і ў нас Беларусаў, як галава дзяржавы, якая дае магчымасьць укусіць салодкасьць вышэйшай адукацыі нашым грамадзянам пазбаўленым гэтага ліхой доляй на Бацькаўшчыне.

Чэсьць Масарыку і пашана!

### Запасы збожа ў Літве.

Літоўскае статыстычнае бюро разаслала анкету, у мэтах даведацца ці хопіць Літве збожжа аж да новых збораў ураджаю.

Да дня 1 лютага г. г. атрымана 1058 адказаў, з якіх вынікае, што таго збожа, якое ёсьць хопіць на 8, 6 месяцаў.

А помніцца, як горка плакаў над літоўскай бязхлебіцай яшчэ неяк увосень той „Kurjer Wileński", які падае цяпер гэтую добрую для Літвы вестку?!

### Немцы будуюць масты і дарогі ў Літве.

Літоўскае міністэрства камунікацыі аддало будову 170-ці мастоў на шасейных дарогах адной нямецкай фірме.

Уся будова павінна быць закончана ў працягу аднаго году.

Ну а ў нас як? — Здаецца што польскі ўрад умее браць толькі падаткі, але каб што пабудаваць, дык на гэта не мастак!

### Францускія дыплёматычныя архівы.

З Парыжа паведамляюць, што францускай Ліга праў чалавека, якая ў працягу цэлага раду гадоў дамагалася апублікаваньня ўсіх францускіх дакумэнтаў адносна сусьветнае вайны, ізноў зьвярнулася да Брыяна з дамаганьнем аб бязумоўным апублікаваньні ўсіх францускіх дыплёматычных архіваў. Ліга паказвае на Нямеччыну, Аўстрыю, Расею і часткова на Англію, якія ўжо дакуманты сваіх дыплёматычных канцэлярыяў апублікавалі ў той час, як Францыя ўсё яшчэ адхіляецца ад гэтага.

### Італія і Балканы.

Былы албанскі міністар-прэзыдэнт Фан-Нолі адправіў з Вены ў Жэневу Радзе Лігі Народаў тэлеграму ў якой заяўляе, што італьянска-албанская згода зьяўляецца правакацыйным вызавам новай вайны на Балканах. Раней ці пазьней балканскія народы павінны будуць выступіць у абароне сваей свабоды, што будзе азначаць новую вайну ў Эўропе.

Албанскі народ пытаецца ў Лігі Народаў: ці дазволіць яна аднаму са сваіх сябраў правацыраваць вайну? Калі, — канчае Фан-Нолі, — Ліга Народаў адкажа на гэтае пытаньне моўчкі, дык балканскія народы павінны будуць лічыць, што Ліга адказалася ад сваей місіі—быць апякуном агульнага супакою і зьмяніла сьцяг Вільсона на чорную фашыстоўскую кашулю Мусаліні.

### Урад захварэў грыпай.

З Белграду паведамляюць, што некалькі міністраў Югаславіі на чале з прэм'ерам Узуновічам захварэлі грыпай.

### Выпадкі ў Кітаі.

„Westminster Gazette" падае з Шанхаю, што амэрыканскія і ангельскія грамадзяне заклікаюца пакінуць Нанкін, дзеля таго, што Нанкін займуць кантонцы. Кітайскія буржуазныя ўлады ў Шанхаю ўстанавілі надзвычайныя суды.

### Японія і Кітай.

Японскі міністар замежных справаў заявіў, што Японія ня мае на думцы звярачаць Кітайцам сваіх канцэсіяў. Міністар дадаў, што ня лічыць патрэбным уносіць прапазыцыю аб пасрэдніцтве Японіі ў спрэчцы паміж паўднёвым і паўночным Кітаем.

Японскі ваенны міністар сказаў, што Японія яшчэ не праектуе высылкі свайго войска ў Шанхай, толькі японскі ўрад мае намер павялічыць на 400 чалавек японскі гарнізон у паўночным Кітаі.

